# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ПАТРЭБНЫ ДАШКІ

На аўтобусных прыпынках у Ляшуках, Ляўкове, Плянце, Гарадзіску і Нараўцы (усе яны ў гміне Нараўка) патрэбны пачакальні або хаця б дашкі, такія, якія ёсць у іншых мясцовасцях. Пісалі мы ўжо пра гэта. Варта, каб гмінныя ўлады зацікавіліся гэтай справай. Невялічкія пачакальні неабходны, між іншым таму, што аўтобусы не ездзяць рэгулярна.

### УВАГА, НЕБЯСПЕКА!

З Бандароў у Новае Ляўкова вядзе шырокая роўная асфальтаваная дарога. Таму не дзіўна, што самаходы ездзяць па ёй з вялікай хуткасцю. Але ў адным месцы пагражае шафёрам небяспека — насупраць брамы базы пабудовы семяноўскага вадасховішча, якая знаходзіцца недалёка ад скрыжавання дарог Лука-Бандары-Тарнопаль-Міхнаўка. Самаходы гэтай базы вазілі цэмент, ён сыпаўся на павароце ў браму, і на шашы стварыўся бетонны горб, вельмі небяспечны для вадзіцеляў аўтамашын і пасажыраў. На месцы гэтым машына ўзбіваецца ў паветра, што далей — можна прадбачыць. Гэтакая сітуацыя існуе ўжо ўсё лета і восень. Ніхто не зацікавіўся гэтым, а павінен. На дарозе з Бандароў у Ляўкова матарызаваным пагражае небяспека. Але яе можна ліквідаваць. Хто гэта павінен зрабіць, вядома. Чым хутчэй будзе сарваны бетонны горб, тым лепш.

### НОВАЕ ЭЛЕКТРААСВЯТЛЕННЕ

Нядаўна вёска Вілюкі ў Дубіцкай гміне атрымала навейшае электрычнае асвятленне. Цяпер у асеннія вечары тут відна. Гэта вельмі важна і таму, што ў вёсцы ёсць два крутыя павароты на рухлівай асфальтаванай дарозе з Гайнаўкі ў Палічну праз Арэшкава. Новая электраўстаноўка — гэта таксама заслуга мясцовага солтыса Кудэрскага, які выконвае гэтую функцыю 15 гадоў.

### РАЗБІТАЕ ПАЛАТНО

Ехалі мы па асфальтаванай дарозе з Дубіч Царкоўных у Вярсток. Тут, на прынамсі паўкіламетровым адрэзку вельмі разбіта палатно дарогі. Вадзіцелі аўтобусаў ПКС не хочуць ехаць гэтай дарогай і часта не выязджаюць на лінію Гайнаўка-Палічна праз Дубічы Царкоўныя ўжо ў Гайнаўцы. Не ўсе ведаюць, з-за чаго. А тут вядома: па такой дарозе лёгка паламаць рэсоры дый пагражае іншая небяспека. Па дарозе ехаць немагчыма. Асабліва з грузам.

### НОВЫЯ МАЙСТРЫ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ

У апошні час у Сакольскай гміне было прысвоена званне майстра сельскагаспадарчай вытворчасці наступным сялянам: Станіславу Врублеўскаму і Сатурніну Дзянісовічу — абодва яны са Старой Камёнкі, Грыгорыю Грынчэлю з Новай Разадранкі, Рамуальду Мінчэўскаму з Аленяй Гары, Юзэфу Барысу з Шышак і Казіміру Лукашэвічу з Ялоўкі.

Гэтая ўрачыстасць адбылася пры нагодзе падсумавання вынікаў конкурсу „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“ за 1978 год. Першае месца заняла і атрымала ва ўзнагароду 30 тысяч злотых на агульнавясковыя мэты Куроўшчына. **(яц)**

## БУГ У АГНІ

Ноччу жандары ўварваліся ў хату Ваўрэнцюкоў. Іх электрычныя ліхтарыкі вострымі струямі святла разрэзалі начную цемру, вырываючы са сну дарослых і дзяцей.

Быў ужо 1943 год. „Саветкі“, жонкі рускіх афіцэраў, **Марыя Кузняцова** і **Марыя Федунова,** адчувалі сябе ў сям'і Ваўрэнцюкоў, як у родных бацькоў. Па-суседску жыла яшчэ адна „васточніца“, **Надзея Іванаўна Калгацкіна**. Усе яны дружылі, адна другой дапамагалі ў бядзе, разам хадзілі на заробак і неяк жылі ды гаравалі...

Лейтэнант Ігар Сураў усё часцей некуды адлучаўся з вёскі, то на дзень, то на два, а вяртаючыся на хутар, амаль заўсёды прыносіў або нейкія лістоўкі, або газеты на рускай і беларускай мовах, або проста сам расказваў, што дзеецца на франтах вялікай вайны. А весткі былі штораз больш суцяшальныя. Пасля правалу гітлераўскага наступлення на Маскву, прыйшоў час на сталінградскі разгром ворага. Нават у афіцыйных газетах, якія немцы выдавалі таксама на рускай і беларускай мовах, усё часцей паяўляліся паведамленні аб адступленні гітлераўскіх войск „дзеля выраўнання або скарачэння ліній фронту“.

Паражэнне на фронце яшчэ болей раз'юшала гітлераўскіх служакаў у тылу. Найбольш жорсткімі метадамі прыгнёту і здзекаў хацелі яны даказаць мірнаму насельніцтву, што ўсё ж яшчэ гаспадарамі гэтай зямлі з'яўляюцца яны — грамадзяне вялікага рэйха, якіх фюрэр вызначыў на паноў гэтага свету на цэлае будучае тысячагоддзе.

Чаго ж тады добрага маглі спадзявацца Ваўрэнцюкі ад гэтых няпрошаных начных гасцей? Дзядзька Пятро ніяк не мог запаліць газоўку. Ад перапалоху рукі ў яго трэсліся і крэсіва выпадала з пальцаў, а запалак у хаце не было. Урэшце кнот падпаліў жандар уласнай запальнічкай. Пагналі ўсіх з пасцелі, загадалі апрануцца, а самі сталі шныраць па кутках хаты і панадворка.

Успамінае інжынер Іван Ваўрэнцюк:

— Абедзве нашыя „саветкі“ разам з дзецьмі ўжо даўней мелі прапіску ў нашай хаце, а Ігар Сураў прапісаны быў у суседняй вёсцы. Наш хутар даволі часта наведвалі розныя рускія ваенныя, якім нейкім цудам удавалася вырвацца з лагераў для палонных і якія намагаліся прабівацца на ўсход. На шчасце, у гэты дзень іх у нас не было.

## ПОМСТА НА ДЗЕЦЯХ

Закончыўшы вобыск, жандары загадалі Марыі Кузняцовай, каб апранула чацвёра сваіх дзяцей і пайшла з імі. Усе жанчыны ўзнялі лямант. Цётка Антаніна Сямёнаўна, ухапіўшы за рукі старэйшага па чыне жандара, пачала на каленях маліць яго, каб хаця дзяцей пакінулі.

— Яны ж у нічым не вінаватыя, спа-



М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК



**бэткі** — агульная назва ўсіх грыбоў, апрача баравікоў. Зосталісіэ туолько корыэніэ по бэтках. З бэткамы трэба осторуожно, а то можна і мухоморуў набраты. Бэткам потрыэбны дошч.

**мыдвыэдь** — пеўнік стракаты. Я то люблю з мыдвыдіэмы зупу. Мыдвыдіэм трэба добрыйі осэні.

**пліска** — лісічка звычайная. Якая добра зупа з пліскамы. Доліэй пліскам буольш воды. Лятось в ліэсы мнуого пліcок.

**пуодобэнь** — грыб, які ў польскай мове называюць „ольшувка“. Говорат, шчо пуодобнуоў ны можна йыэсты. Шчо вам зробыты з пуодобнямы?

**пухніэк** — падбярозавік. Наймэнш роботы з пухнякамы. В пухняках рыэдко бувают робакі. Пухнякам трэба доброго дошчу. *(Быстрэ, гміна Боцькі)*

## ФАЛЬКЛОР




*Край бору дарожка, край бору,*
*просіцца Манячка дадому:*
*— Завязі, Ванячка, дзе ты ўзяў,*
*каб мой тут вяночак да ні звяў.*
*— Ні бойсе, Манячко, ні звяне —*
*е ў міне матуля, пагляне.*
*Прынясе вадзіцы з крыніцы,*
*намочыць вяночка ў вадзіцы:*
*— Намакай, вяночку, намакай,*
*Прывыкай, Манячко, прывыкай.*
*Намакай, вяночку, у вадзе,*
*прывыкай, Манячко, усёй бядзе.*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 года нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

## КЛОПАТЫ З... УРАДЖАЕМ

Восень уступіла ў свае правы. Адшумелі ўраджаямі палеткі. Пустыя і крыху сумныя сталі палі. Зямля, быццам шчаслівая парадзіха, стала адпачываць, шчодра адарыўшы людзей. Асабліва бульбай абрадзіла яна ў бягучым годзе. Ды так абрадзіла, што многія гаспадары маюць з ёю шмат клопатаў. Запоўнілі яны свае скляпы і ўсе магчымыя месцы. Астатнюю хочуць прадаць дзяржаве. А пункты скупкі душацца ад вялікай яе колькасці. Не паспявае ўправіцца з вывазам бульбы чыгунка. Менавіта таму абмежаваную колькасць бульбы прымаюць на пунктах скупкі. Бульбяных транспартных мяшкоў, атрыманне якіх гарантуе яе прыняццё, выдаюць сялянам таксама абмежаваную колькасць. І ў сувязі з гэтым адчуваецца на вёсках нейкая нервознасць, тым больш, што і закантрактаванай бульбы пакуль прымаюць мала. Асабліва шмат скарг можна пачуць у гміне Дубічы Царкоўныя. Гэта гміна, адзіная ў Беластоцкім ваяводстве, вызначана Міністэрствам сельскай гаспадаркі як гміна па прадукцыі прыдатнай да яды бульбы. Засеяна тут бульбай было 1056 га, а закантрактавана яе 4200 тон. Апрача таго, у гміне існуе дзевяць спецыялістычных гаспадарак, якія засеялі многа бульбы і абавязаны прадаць дзяржаве не менш як па 20 тон.

— Сёлета кожны гаспадар прадаць можа значна больш бульбы, чым прадбачвае кантрактацыя, таму што з кожнага гектара атрымалі амаль па 400 цэнтнераў, — з сумам расказваў нам кіраўнік сельскагаспадарчай службы ў Дубічах Царкоўных, аграном Мікалай Цімафеюк. — Але багаты ўраджай бульбы ў значнай ступені пакрые слабы ўраджай зерневых культур, якія выкарыстоўваюцца на асыпку для жывёлы.

— Такім чынам, недахоп збожжа кампенсуе бульба, так што ў нас не зменшыцца жывёлагадоўля, — гаворыць Мікалай Цімафеюк. — А з жывёлагадоўляй у нас даволі добра. На 100 га зямельных угоддзяў у нашай гміне 64 штукі кароў, 111 свіней і 40 авечак. Згодна з дзяржаўнымі ўказаннямі, трэба ўсё зрабіць, каб не дапусціць да памяншэння пагалоўя жывёлы. Добра ў гміне праходзіць параванне-закісванне бульбы. Вызначана 30 добрых гаспадароў, якія такіх кармоў падрыхтуюць не менш чым 400 тон. Ды ў гміне атрымалі добры ўраджай кукурузы — амаль 600 цэнтнераў з аднаго га, а засеяна яе на 20 га.

**Міхась Хмялеўскі**




(Працяг са стар. 1)

але, мабыць, найбольш удалая з іх належыць да вопытных археолагаў і заўзятых балтыстаў Дануты Яcканіс з Беластоцкага акруговага музея і Марыяна Качынскага з Археалагічнага музея ў Варшаве. На працягу двух год яны надта скрупулёзна „перакапалі“ зборы археалагічных музеяў у Варшаве, Гданьску, Кракаве, акруговых — у Беластоку і Сувалках, Вярміі і Мазураў у Ольштыне і Інстытута матэрыяльнай культуры Польскай акадэміі навук. З выяўленых там разнастайных помнікаў па гісторыі балтыйскіх плямёнаў выбралі 1045 найбольш каштоўных і паказальных экспанатаў, склалі сцэнарый і з удзелам мастакоў Станіслава Высоцкага і Маўрыцыя Стрыецкага стварылі цікавую выстаўку **„Балты — паўночныя суседзі славян“**. Яна была адкрыта 26 верасня г.г. у Акруговым музеі ў Беластоку і з'яўляецца самай багатай і самай поўнай з усіх выставак, прысвечаных культуры балтаў. Выстаўка ахоплівае ўсе дагэтуль вядомыя гісторыі балтыйскія плямёны, пачынаючы ад ранняй эпохі жалеза (V стагоддзе да нашай эры) да канца сярэднявечча (дакладней — да XIV стагоддзя). Належна прадуманыя і старанна падрыхтаваныя ўсе яе элементы даюць магчымасць даволі дакладна прасачыць развіццё грамадскіх адносін, гаспадаркі, культуры, вераванняў на працягу дзвюх тысяч год у нашых паўночных суседзяў і іх узаемаадносіны з іншымі плямёнамі, перш за ўсё са славянамі.

Калі так ад стэнда да стэнда ідзеш па выстаўцы і знаёмішся з арыгінальнай прыгажосцю мастацкіх вырабаў, зброі, рэчаў штодзённага побыту, звязаных з вераваннямі прадметаў, прыглядаешся рэканструкцыям пабудоваў і заняткаў колішніх балтаў на значнай колькасці надта вобразных макетаў, учытваешся ў карты і надпісы — хутка і беспаваротна расплываецца легенда пра беластоцкую Яцвягію са сталіцай у Драгічыне. **Становіцца ясным, што ніводнае з балтыйскіх плямёнаў на стала не насяляла тэрыторыю цяперашняй Беласточчыны, а пасяленні ваяўнічых яцвягаў ніколі не перакрочылі раку Бебжу ў паўднёвым напрамку.** У той жа час узмацняецца захапленне багаццем мінуўшчыны нашых паўночных суседзяў.



*Рэканструкцыя бюста яцвяжскага „князя“ на падставе чэрапа з кургана ў в. Швейцарыя на Сувальшчыне. Работа мастака З. Нізялка.*

Калі б у вялікім спрошчанні прыгадаць асноўныя факты з гісторыі балтаў, то яны выглядалі б больш-менш так. Недзе каля чатырох тысяч год таму назад яшчэ існавала балта-славянская моўная супольнасць, тры тысячы год назад яна распалася. Каля дзвюх з паловай тысяч год назад балты пасяліліся на ўсходнім узбярэжжы Балтыйскага мора і ў хуткім часе падзяліліся на балтаў заходніх (плямёны прусаў, яцвягаў і кураў) і ўсходніх (літоўцы, латышы і роднасныя ім плямёны, насяляўшыя вялікія абшары верхняга і сярэдняга Падняпроўя). Абодва адгалінаванні стварылі арыгінальную і багатую культуру, асабліва буйна развівалася гаспадарка і мастацтва ў заходніх балтаў. Паміж V і IX стагоддзямі нашай эры балты скаланізавалі ніжняе цячэнне ракі Віслы і значныя абшары над

Імпартгумар

## ПОМСТА

Я сек яго страшэнна. Па плячах, па шыі, па нагах. „Зяруга, — думаў я, раздзьмухваючы ў сабе вугольчыкі ярасці, — колькі я буду гнуцца перад табой, колькі буду цярпець здзекі і прыніжэнне?“

Ён гучна войкаў і прасіў літасці. Але я, адчуваючы, што кроў ва мне бурліць, як вулканічная лава, хвастаў яго і хвастаў, укладваючы ва ўдары ўсю моц.

Нарэшце, калі яго твар і шыя, нават лысіна пакрыліся яркай чырванню, я лісліва ўсміхнуўся і сказаў:

— Гатова, Акім Лукіч.

— Малайчына, — крактануў мой начальнік, адрываючы ад жывоціка-глобуса ліст з веніка.

— Ты, Цыркун, — сапраўдны лазеншчык.

**Віктар Шаўчэнка**



### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Журналіст спытаў у аднаго вядомага амерыканскага доктара:

— Скажыце, доктар, ці можна жыць без сляпой кішкі?

— Хворым можна, а дактарам не, — адказаў доктар.

*

— Што ты выразаеш з газеты?

— Заметку пра мужчыну, які запатрабаваў разводу з-за таго, што жонка корпаецца ў яго кішэнях.

*

— Сіньёр Таніні, вы пераблыталі дэбет з крэдытам!

— О, патрон, прабачце. Гэта адбылося таму, што я ляўша.

## НІЎКА





### ЛЯ ТЭЛЕВІЗАРА

— Што раней, мама, людзі рабілі, калі не было тэлевізараў? — спытала дачка ў маці.

— Тады, дачушка, яны больш адпачывалі, — сказала маці.

### СІЛА МАСТАЦТВА

— Што вы адчулі, калі ўпершыню трапілі ў наш тэатр?

— Вялікую сілу мастацтва. Самі памяркуйце: у антракце я пазнаёміўся з маёй будучай жонкай, а пасля другой дзеі мы ўжо дамовіліся аб вяселлі.

### ЗАНЯТАК ГУЛЬТАЯ

— Чым ты сёння займаўся? — запыталі ў гультая.

— Не абедаў, добра памятаю, праспаў. А вось што зрабіў, чорт яго лысы ведае.

### ЛЮБЛЮ СУД

На пытанне, чаму яна хоча працаваць менавіта ў суддзе, задрыпанка адказала: „Я тут чатыры разы разводзілася“.




*Без слоў.*



### МІНІВЕРШЫ

*Руку сваю яна зайсёды мыла,*
*Пасля таго, як цалаваў Гаўрыла.*

*

*На сесіі засынаўся Уладзік...*
*Прыехаў дзядзька і ўсё ўладзіў.*

*

*Ён пазбягаў усякага пачыну,*
*Баяўся, разануць яшчэ па чыну.*

**В. Барodзіч**



Made in Zadrypanka

З „Веснiка Задрыпонії“

### НАВІНЫ СПОРТУ

Нічыйным вынікам закончыўся ўчора таварыскі футбольны матч паміж камандамі „Буран“ і „Віхор“. Наступная нічыя адбудзецца ў наступную нядзелю.

### ПЫТАННЕ ГАПКІ

Чаму гэта — мужчыны нешчаслівыя ў шлюбе, а жанчыны — у адзіноце?

**Рос у вачах начальства, пакуль не стаў бяльмом.**

### ЯК У ЖЫЦЦІ

У Драздоў вакансія: няма выхавацельніцы у дзіцячы сад. Раілі Дзятліху: дзелавая, прыгожая, клапатлівая.

Прызначылі Зязюлю. Варона рэкамендавала.

### РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ




## КУПАЛІНКА

Беларуская народная песня

*Купалінка, купалінка,*
*Цёмная ночка,*
*Цёмная ночка,*
*Дзе ж твая дочка?*

*Мая дочка ў садочку*
*Ружу, ружу поліць,*
*Ружу, ружу поліць,*
*Белы ручкі коліць.*

*Кветачкі рвець,*
*Кветачкі рвець,*
*Вяночкі звівае,*
*Вяночкі звівае,*
*Слёзкі пралівае.*

## Спячая царэўна

У памяшканні панавала мёртвая цішыня. Бышцам усё застыла ў глыбокім сне. Я зрабіў яшчэ некалькі крокаў, агледзеўся і хацеў гучна спытаць: „Ці ёсць тут хто-небудзь?“ — але раптам аслупянеў: на невялічкім услончыку сядзела, заплюшчыўшы вочы, дзівосная прыгажосці дзяўчына. Яе доўгія, светлыя кудры хвалямі абляглі круглыя плечы. Я баязліва, на дыбачках наблізіўся да яе і стаў побач. Зблізу яна была яшчэ прыгажэйшая. Мяне вабілі яе доўгія чорныя вейкі, малюсенькі, як у кошачкі, носік, цудоўнай формы роцік...

Слухаючы яе роўнае, спакойнае дыханне, я прыгадаў казку пра спячую царэўну. І раптам мне здалося, што я казачны прынц і страшэнна захацелася пацалункам разбудзіць прыгажуню, зняць з яе злыя чары. Я нахіліўся і дакрануўся да яе цукровых вуснаў. Яна залыпала вейкамі, усхапілася з услончыка і, крыху спалоханая, а магчліва, проста трохі азадачаная, запытала:

— Што вам трэба?

— Мне, калі ласка, два кілаграмы цукру, паўбохана хлеба і пачак маргарыну.

**Мар'ян Гікель**




## Курёзы

### ПАДРЫХТОЎКА ЮНЫХ САМАГОНШЧЫКАЎ

Аб'ява ў заходнегерманскім часопісе „Шпігель“: „Набор дэталей і прыбораў „Космас-хімія-юніёр“ дае дзецям магчымасць з дапамогай 150 захапляючых бяспечных эксперыментаў даследаваць навакольны свет“. Эксперымент нумар 118 навучыць дзяцей... „асновам прыгатавання шнапсу“.

### ГРЫМАСЫ СЕРВІСУ

Часопіс „Ю. С. ньюс энд Уорлд рыпарт“ змясціў доўгі пералік скаргаў амерыканцаў на сваю службу сервісу. Так, тэлевізар быў здадзены ў гарантыйны рамонт з невялікімі непаладкамі, а вярнуўся з вялікімі. Жыхару Мілуокі некалькі разоў рамантавалі халадзільнік, і кожны раз ён адразу ж выходзіў са строю. А бывае і такое. Кліент здаў касцюм у чыстку. Калі ён прыйшоў забіраць яго, касцюма не аказалася. Месяц ён званіў кіраўніку хімчысткі, нарэшце той згадзіўся аплаціць кошт касцюма і абяцаў выслаць па пошце 200 долараў. Але грошы не прыйшлі, і той, хто пацярпеў, зноў звярнуўся ў хімчыстку. Яго суцешылі: касцюм знайшлі і хутка даставяць. Але не даставілі, растлумачыўшы гэта тым, што „згубілі ў дарозе“, і зноў абяцалі выслаць грошы.

### БЫЦЬ ЛЫСЫМ БОЛЬШ ЭКАНОМНА...

Банкаўскі служачы Роберт Бэнкс можа дадаць: „І для здароўя больш бяспечна“. Больш пяці тысяч долараў ён заплаціў за тое, каб да яго рэдкай ужо шавялюры „прышылі“ новыя сінтэтычныя валасы. Але аперацыя была няўдалай, і цяпер ён у бальніцы: вакол імплантаваных валокнаў не расце скура. Лячэнне будзе каштаваць яму яшчэ 12 тысяч долараў.




**Язык можа давесці і да вымовы.**